Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР



25 СТУДЗЕНЯ 1929 г.

**№ 1 (60)**

V-ты год ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ
КІРАЎНІЦТВА СПРАЎ СНК
І ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ БССР
МЕНСК — 1929



# ЗЬМЕСТ

Узгоднена з Нар. Кам. Фінансаў.

## 1. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

### пра абвяшчэньне ставак заработнай платы для ўстаноў мясцовага бюджэту на 1928-29 бюджэтны год.

Народны Камісарыят Працы абвяшчае ніжэй стаўкі заработнай платы для ўстаноў мясцовага бюджэту на 1928-29 бюджэтны год:

| НАЗВА ПАСАДЫ | | Месячны аклад у рублёх | |
|---|---|---|---|
| | | з 1 кастр. 1928 г. | з 1 студз. 1929 г. |
| **Мэдыка-санітарны пэрсанал** | | | |
| Лекар мэдыцынскі . . . . . . | у акруговых гарадох . . | 70 | 80 |
| „ „ . . . . . . | ў іншых мясцовасьцях . | 80 | 95 |
| „ „ —заг. больніцаю. . | у сельскіх мясцовасьцях. | 85 | 100 |
| „ вэтэрынарны . . . . . | ва ўсіх мясцовасьцях . | 80 | 100 |
| „ санітарны і школьны. . . . | „ „ . . | 90 | — |
| Зубны лекар . . . . . . . . | у акруговых гарадох. . | 47 | 55 |
| „ „ . . . . . . . . | у іншых мясцовасьцях . | 50 | 55 |
| Лекарскі мэдыцынскі памочнік. . . | у акруговых гарадох. . | 45 | 50 |
| „ „ „ . . | у іншых мясцовасьцях . | 40 | 45 |
| ён-жа заг. фэльчарскага пункту . . | у сельскіх мясцовасьцях. | 43 | 50 |
| Лекарскі вэтэрынарны памочнік . . | ва ўсіх мясцовасьцях. . | 40 | 45 |
| Акушэрка . . . . . . . . . | у акруговых гарадох. . | 40 | 45 |
| „ . . . . . . . . . | у іншых мясцовасьцях . | 40 | 45 |
| Фармацэўт . . . . . . . . . | ва ўсіх мясцовасьцях. . | — | 50 |
| Загадчык аптэкаю. . . . . . . | „ „ . . | — | 50 і 60 |
| Мэдыцынская сястра, кастэляншa, эканомка і дэзынфэктар . . . . . | у акруговых гарадох . . | 38 і 40*) | — |
| Мэдыцынская сястра, кастэлянша, эканомка і дэзынфэктар . . . . . | у іншых мясцовасьцях . | 33 | 35 |
| Санітар . . . . . . . . . . | у акруговых гарадох . . | 28 | — |
| „ . . . . . . . . . . | у іншых мясцовасьцях . | 22 | — |
| **Культурна-асьветны пэрсанал** | | | |
| Настаўнік 2-х, 3-х, 4-х комплектнай школы (I ступені) і I-га канцэнтру сямігодкі . . . . . . . . . | ва ўсіх гарадох . . . | 46 | 52 |
| Настаўнік 2-х, 3-х, 4-х комплектнай школы (I ступені) і I-га канцэнтру сямігодкі . . . . . . . | у сельскіх мясцовасьцях. | 44 | 48 |
| Загадчык—ён-жа настаўнік I компл. школы і зав. 2-х компл. школы . | ва ўсіх гарадох . . . . . | 48 | 54 |

*) 40 руб. плаціцца ў тых установах, якія не атрымоўваюць датацыю з лекавага фонду.

| НАЗВА ПАСАДЫ | | Месячны аклад у рублёх | |
|---|---|---|---|
| | | з 1 кастр. 1928 г. | з 1 студз. 1929 г. |
| Загадчык—ён-жа настаўнік I кампл. школы і заг. 2-х кампл. школы | у сельскіх мясцовасьцях | 46 | 50 |
| За загадваньне ў 3-х комплектных школах у гарадох і ў сельск. мясцовасьцях даплачваецца 20%, а ў 4-х камплектных школах—25% стаўкі настаўніка І-й ступені. | | | |
| Загадчык 7-мігодкі і школы II ступені, настаўнік II канцэнтру 7-мігодак і школ II ступені, загадчык і настаўнік вячэрніх школ для дарослых і рабочай моладзі падвышанага тыпу, школ сялянскай моладзі, прафтэхнічных школ і настаўнік, і інструктар навучальных мастэрняў, пабудаваных над 4-хгодкаю | ва ўсіх мясцовасьцях | 70 | 72 |
| Загадчык школы сялянскай моладзі—аграном атрымоўвае адпаведную стаўку раённага агранома | | | |
| Настаўнік школы малапісьменных і лікпунктаў | ва ўсіх гарадох | 40 | 50 |
| Настаўнік школы малапісьменных і лікпунктаў | у сельскіх мясцовасьцях | 36 | 40 і 45*) |
| Выхавальнік і інструктар дзіцячых дамоў, садоў і дзенных дзіцячых прытулкаў | ва ўсіх гарадох | 42 | 50 |
| Выхавальнік і інструктар дзіцячых дамоў, садоў і дзенных дзіцячых прытулкаў | у сельскіх мясцовасьцях | 38 | 48 |
| Загадчыкі дзіцячых дамоў—у залежнасьці ад маштабу работы | | | 50, 60, 75 і 100 |
| Загадчыкі народных дамоў | у сельскіх мясцовасьцях | 40 | 55 |
| Хатнік | „ „ | 40 | 50 |
| Загадчык клюбу, дамоў асьветы і дамоў селяніна | ва ўсіх мясцовасьцях | — | 55, 65 |
| Бібліятэкар | ва ўсіх гарадох | 42 | 50 |
| „ | у сельскіх мясцовасьцях | 38 | 48 |
| Культработнік | ва ўсіх мясцовасьцях | — | 45 |

## Сельска-гаспадарчы пэрсанал

| | | | |
|---|---|---|---|
| Акруговы аграном | ва ўсіх акруг. гарадох | 100 і 120 | 120 |
| Аграном гарадзк. камун. аддзелу | у Менску, Гомелі і Віцебску | 95 | — |
| „ „ „ „ | у іншых акруг. гарадох | 85 | — |
| Раённы аграном | | 85 | 100 |
| Памочнік раённага агранома | | 65 | 80 |
| Раённы заатэхнік | | 65 | 80 |

*) Стаўка ў 45 руб. плаціцца тады, калі ў школах малапісьменных і лікпунктах у сельск. мясцов. працуюць настаўнікі, якія ня маюць другой сталай працы.

| НАЗВА ПАСАДЫ | | Месячны аклад у рублёх | |
|---|---|---|---|
| | | з 1 кастр. 1928 г. | з 1 студз. 1929 г. |
| Інструктар па жывёлагадоўлі . . . | ва ўсіх акруговых зямельных аддзелах . . . | 100 | — |
| „ „ паляводзтву . . . . | у акруг. зямельн. аддзел. у Менску, Гомелі, Віцебску . . . . . | 100 | — |
| „ „ „ . . . . | у іншых акруг. гарадох . | 90 | — |
| Інструктар па пчалярству, па садоўніцтву і гародніцтву . . . . . | у акруг. зямельн. аддзел. у Менску, Гомелі, Віцебску . . . . . | 95 | — |
| Інструктар па пчалярству, па садоўніцтву і гародніцтву . . . . . | у іншых акруг. гарадох . | 85 | -- |
| Каморнік гарадз. аддзелу камун. гаспадаркі . . . . . . . . . . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 90 | — |
| Каморнік гарадз. аддзелу камун. гаспадаркі . . . . . . . . . . | у іншых акруг. гарадох . | 80 | — |
| Садоўнік гарадзк. аддзелу камун. гаспадаркі . . . . . . . . . | ва ўсіх акруг. гарадох . | 65 | — |
| **Судовы пэрсанал** | | | |
| Народны судзьдзя . . . . . . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 90 | 100 |
| „ „ . . . . . . | у іншых акруг. гарадох . | 70 | 90 |
| „ „ . . . . . . | у іншых мясцовасьцях · | 65 | 75 |
| „ сьледчы . . . . . . . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 70 | 90 |
| „ „ . . . . . . . | у іншых акруг. гарадох . | 60 | 80 |
| „ „ . . „ . . . . | у іншых мясцовасьцях . | 60 | 75 |
| Судовы выканавец . . . . . . | ва ўсіх мясцовасьцях. . | 40 | 45 |
| **Міліцыя і крымінальны вышук** | | | |
| Начальнік раёну і гарадзкога аддзяленьня міліцыі . . . . . . . | | 60 | 70 |
| Памочнік начальніка раёну і гарадзк. аддзяленьня міліцыі . . . . . | | 55 | 60 |
| Квартальны наглядчык . . . . | | 45 | 50 |
| Памочнік квартальнага наглядчыка . | | 42 | — |
| Старшы міліцыянэр . . . . . . | ва ўсіх акруг. гарадох . | 42 | — |
| „ „ . . . . . . | у іншых мясцовасьцях . | 40 | — |
| Малодшы міліцыянэр . . . . . | ва ўсіх акруг. гарадох . | 40 | — |
| „ „ . . . . . . | у іншых мясцовасьцях . | 36 | — |
| Конны міліцыянэр рэзэрваў . . . | | 41 | — |
| Інспэктар Крымінальнага Вышуку . | ва ўсіх мясцовасьцях. . | 70 | — |
| Старшы агэнт Крымінальнага Вышуку | „ „ . . | 52 | — |
| Малодшы „ „ „ | „ „ . . | 45 | — |

| НАЗВА ПАСАДЫ | | Месячны аклад у рублёх | |
|---|---|---|---|
| | | з 1 кастр, 1928 г. | з 1 студз 1929 г. |
| Загадчык арыштнага памяшканьня . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 45 | — |
| " " " . | у іншых мясцовасьцях . | 40 | 42 |
| " рэгбюро . . . . . . . | ва ўсіх акруг. гарадох . | — | 45 |
| Дактылёскоп . . . . . . . . . | ва ўсіх мясцовасьцях . . | — | 40 |
| Дрэсыроўшчык . . . . . . . | " " . . | — | 50 |
| Фатограф . . . . . . . . . | " " . . | — | 35 |

## Адміністрацыйны пэрсанал

(кіруючая група)

| | | | |
|---|---|---|---|
| Старшыня акруговага выканаўчага камітэту . . . . . . . . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 183 | — |
| Член прэзыдыуму выканаўч. камітэту . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . . | 160 | — |
| " " " " | у іншых акруг. гарадох . | 143 | — |
| Старшыня гарадзкога савету . . . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 160 | — |
| " " " . . . | у іншых акруг. гарадох . | 143 | — |
| Адказны сакратар гарадзкога савету . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 143 | — |
| " " " " . | у іншых акруг. гарадох . | 128 | — |
| Начальнік адміністрацыйнага аддзелу . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 160 | — |
| " " " . | у іншых акруг. гарадох . | 143 | — |
| Памочнік " " . | ва ўсіх акруг. гарадох . | 128 | — |
| Памочнік начальніка крымінальнага вышуку . . . . . . . . . | " " . . . | 100 | — |
| Акруговы інспэктар-народнае асьветы, аховы здароўя, сац. забясьпеч., мясцовае прамысловасьці, камунальнае гаспадаркі . . . . . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 160 | — |
| Акруговы інспэктар-народнае асьветы, аховы здароўя, сац. забясьпеч., мясцовае промысловасьці, камунальнае гаспадаркі . . . . . | у іншых акруг. гарадох . | 143 | — |
| Старшыня камітэту сялянскага т-ва узаемадапамогі . . . . . . . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 100 | — |
| Старшыня камітэту сялянскага т-ва узаемадапамогі . . . . . . . | у іншых акруг. гарадох . | 75 | — |
| Загадчык аддзелу камун. гаспадаркі . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 160 | — |
| " " " . | у іншых акруг. гарадох . | 143 | — |
| " " нярухомае маемасьці . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 120 | — |

| НАЗВА ПАСАДЫ | | Месячны аклад у рублёх | |
| --- | --- | --- | --- |
| | | з 1 кастр. 1928 г. | з 1 студз. 1929 г. |
| Загадчык аддзелу нярух. маёмасьці . | у іншых акруг. гарадох . | 90 | — |
| „ акруговага зямельн. аддзелу . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 160 | — |
| „ „ „ „ . | у іншых акруг. гарадох . | 143 | — |
| Нам. загадчыка акруг. зямел. аддзелу . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 143 | — |
| „ „ „ „ „ . | у іншых акруг. гарадох . | 128 | — |
| Старшыня раённага выканаўчага камітэту . . . . . . . . . | ва ўсіх мясцовасьцях . . | 90 | — |
| Член раённага выканаўчага камітэту . | „ „ . . | 60 | 70 |
| Старшыня і сакратар сельскага савету | | 28 | — |

## Інспэктарска-арганізацыйны пэрсанал

| | | | |
| --- | --- | --- | --- |
| Інструктар акруговага выкан. камітэту . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 90 | — |
| „ „ „ „ . | у іншых акруг. гарадох . | 75 | — |
| Інструктар-рэвізор адмін. аддз. . . | ва ўсіх акруг. гарадох . | 70 | — |
| Інспэктар палітасьветы . . . . . | „ „ . . | 128 | — |
| Школьны інспэктар . . . . . . | „ „ . . | 100 | — |
| Раённы інспэктар па сац. выхав. і палітасьвеце | | 85 | — |
| Інструктар піанэрруху . . . . . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 65 | — |
| „ „ . . . . . | у іншых акруг. гарадох . | 50 | — |
| „ „ . . . . . | у іншых мясцовасьцях . | — | 45 |
| Інструктар фізкультуры . . . . . | ва ўсіх акруг. гарадох . | 60 | — |
| Інспэктар па ахове мацяры і дзіцяці . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 100 | — |
| „ „ „ „ „ „ . | у іншых акруг. гарадох . | 90 | — |
| Гарадзк. інспэктар па ахове здароўя . | ва ўсіх гарадох . . . | 120 | — |
| Пажарны інспэктар . . . . . . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 90 | — |
| „ „ . . . . . . | у іншых акруг. гарадох . | 75 | — |
| Юрысконсульт акруговага выканаўчага камітэту . . . . . . . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 120 | — |
| Юрысконсульт акруговага выканаўчага камітэту . . . . . . . | у іншых акруг. гарадох . | 100 | — |
| Юрысконсульт адміністрац. аддз. і гарадз. камун. аддзелу . . . . . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . | 100 | — |
| Юрысконсульт адміністрац. аддз. і гарадз. камун. аддзелу . . . . . | у іншых акруг. гарадох . | 90 | — |

| НАЗВА ПАСАДЫ | | Месячны аклад у рублёх з 1 кастр. 1928 г. | Месячны аклад у рублёх з 1 студз. 1929 г. |
|---|---|---|---|
| **Канцылярска-справаводны пэрсанал** | | | |
| Тэхнічны сакратар акр. выкан. камітэту | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 75 і 65 | — |
| " " " " | у іншых акруг. гарадох . | 65 і 55 | — |
| Тэхнічны сакратар гарадзкога савету і акр. інспэкц. мясц. прамыс.. . . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 65 | — |
| Тэхнічны сакратар гарадзкога савету і акр. інспэкц. мясц. прамыс. . . . | у іншых акруг. гарадох . | 55 | — |
| Тэхнічны сакратар прадз. аддз. камун. гаспад. і акр. зям. аддзелу . . . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 75 | — |
| Тэхнічны сакратар гарадз. аддз. камун. гаспад. і акр. зям. аддзелу . . . | у іншых акруг. гарадох . | 55 | — |
| Тэхнічны сакратар народнага суда . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 60 | — |
| " " " " . | у іншых акруг. гарадох . | 50 | — |
| " " " " . | у іншых мясцовасьцях . | 50 і 40 | — |
| Пам. сакратар народнага суда . . . | ва ўсіх акруг. гарадох . | 45 | — |
| " " " " . . . | у іншых мясцовасьцях . | 40 | — |
| Старшы справавод . . . . . . | у Менску, Гомелі і Віцебск . . . . . | 50 | — |
| " " . . . . . . | у іншых акруг. гарадох . | 40 | — |
| " " . . . . . . | у іншых мясцовасьцях . | 35 | — |
| " " . . . . . . | па вайск. справах у РВК | 35 | 50 |
| Справавод . . . . . . . . . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 37 | — |
| " . . . . . . . . . | у інш. акруг. і раён. гарадох, якія працуюць у РВК, Міліцыі і судох. | 30 | — |
| " . . . . . . . . . | у іншых мясцовасьцях . | 28 | — |
| " . . . . . . . . . | у сельскіх саветах . . | 24 | — |
| Рэгістратар і канторшчык . . . . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 32 | — |
| " " " . . . . | у іншых акруг. гарадох . | 28 | — |
| " " " . . . . | у іншых мясцовасьцях . | 25 | — |
| Мэдыцынскі рэгістратар і статыстык . | ва ўсіх акруг. гарадох . | — | 40 |
| Машыністка . . . . . . . . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 42 | — |
| " . . . . . . . . | у іншых акруг. гарадох . | 37 | — |
| " . . . . . . . . | у іншых мясцовасьцях . | 30 і 35 | — |
| Інфарматар . . . . . . . . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 65 | — |
| " . . . . . . . . | у іншых акруг. гарадох . | 55 | — |
| Загадчык сакрэтнай часткі . . . . | ва ўсіх акруговых выканаўчых камітэтах . . | 120 | — |

| НАЗВА ПАСАДЫ | | Месячны аклад у рублёх | |
|---|---|---|---|
| | | з 1 кастр. 1928 г. | з 1 студз. 1929 г. |
| Архіварыусы—загадч. самаст. архіваў | у акруговых гарадох . . | 72 | — |
| Іншыя архіварыусы . . . . . . | „ „ . . | 45 | — |
| Раённы статыстык. . . . . . . | „ „ . . | 40 | — |
| Справавод-статыстык акр. інспэкц. мясцов. прамысловасьці . . . . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 50 | — |
| Справавод-статыстык акр. інспэкц. мясцов. прамысловасьці . . . . | у іншых акруг. гарадох . | 40 | — |
| Статыстык . . . . . . . . . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 60 | — |
| „ . . . . . . . . . | у іншых акруг. гарадох . | 45 | — |
| Начальнік агульна-адміністрац. часткі адміністрац. аддзелу . . . . . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 75 | — |
| Начальнік агульна-адміністрац. часткі адміністрац. аддзелу . . . . . | у іншых акруг. гарадох . | 60 | — |
| Загадчык стала агульнага нагляду і чужаземнага стала . . . . . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 75 | — |
| Загадчык стала агульнага нагляду і чужаземнага стала . . . . . | у іншых акруг. гарадох . | 55 | — |
| Загадчык ЗАГС'у . . . . . . . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 75 | — |
| „ „ . . . . . . | у іншых акруг. гарадох . | 55 | — |
| Загадчык адрэсна-пашпартнага стала . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 55 | — |
| „ „ „ „ . . | у іншых акруг. гарадох . | 40 | — |
| „ камэры рэчав. довадаў . . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 45 | — |
| „ „ „ „ . . | у іншых акруг. гарадох . | 35 | — |
| „ жылішчнага стала . . . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 75 | — |
| „ „ „ . . . | у іншых акруг. гарадох . | 50 | — |
| **Рахункова-бухгальтарскі пэрсанал** | | | |
| Рахункавод . . . . . . . . . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 45 | — |
| „ . . . . . . . . . | у іншых акруг. гарадох . | 37 | — |
| „ . . . . . . . . . | у іншых мясцовасьцях . | 33 | — |
| Старшы бухгальтар . . . . . . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 100 | — |
| „ „ . . . . . . | у іншых акруг. гарадох . | 80 і 90 | — |
| Бухгальтар . . . . . . . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 75 | — |
| „ . . . . . . . . | у іншых акруг. гарадох . | 60 | — |
| Бухгальт. акруг. зям. аддзелу . . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 85 | — |

| НАЗВА ПАСАДЫ | | Месячны аклад у рублёх | |
|---|---|---|---|
| | | з 1 кастр. 1928 г. | з 1 студз. 1929 г. |
| Бухгальт. акруг. зям. аддзелу | у іншых акруг. гарадох | 60 | — |
| Бухгальтар нар. аддз. кам. гасп., дзе у штатах няма ст. бухгальтара | у акруг. гарадох | 90 | — |
| Бухгальтар-інспэктар акр. інспэкц. мясцов. прамысловасьці | у Менску, Гомелі і Віцебску | 120 | — |
| Бухгальтар-інспэктар акр. інспэкц. мясцов. прамысловасьці | у іншых акруг. гарадох | 90 | — |
| Бухгальтар раённай фінанс. часткі | | 60 | — |
| Пам. бухгальтара | у Менску, Гомелі і Віцебску | 60 | — |
| " " | у іншых акруг. гарадох | 50 | — |
| " " | у іншых мясцовасьцях | 45 | — |
| Касіры | ва ўсіх мясцовасьцях | 45 | — |
| **Гаспадарча-абслугоўваючы пэрсанал** | | | |
| Загадчык гаспад. акр. выкан. камітэту | у Менску, Гомелі і Віцебску | 50 | — |
| " " " " " | у іншых акруг. гарадох | 45 | — |
| Загадчык гаспад. у дзіцячых домах, больніцах і інш. функ. установах у залежнасьці ад масштабу работы | ва ўсіх мясцовасьцях | — | 45, 55, 65 і 75 |
| Начальнік гаспад. адміністрац. аддз. | у Менску, Гомелі і Віцебску | 72 | — |
| " " " " | у іншых акруг. гарадох | 60 | — |
| Шофэры | у Менску, Гомелі і Віцебску | 75 | — |
| " | у іншых акруг. гарадох | 50 | 60 |
| **Тэхнічныя работнікі** | | | |
| Кур'ер, прыбіральнік, дворнік, вартаўнік, швэйцар, апальнік, кучар: | | | |
| а) у адміністрац. установах | у Менску, Гомелі і Віцебску | 30 | — |
| | у іншых акруг. гарадох | 27 | — |
| | у іншых мясцовасьцях | 20 | — |
| Апальнікі і кучары | " " | 22 | — |
| б) у функцыянальн. установах: (школы, больніцы і інш.) | у Менску | 30 | — |
| | у Гомелі і Віцебску | 27 | — |
| | у іншых акруг. гарадох | 25 | — |
| | у іншых мясцовасьцях | 19 | — |
| Апальнік паравога апалу | " " | 50 | — |
| Кухарка і прачка | у Менску, Віцебску і Гомелі | 30 | — |
| " " " | у іншых акруг. гарадох | 28 | — |
| " " " | у іншых мясцовасьцях | 22 | — |

| НАЗВА ПАСАДЫ | | Месячны аклад у рублёх | |
|---|---|---|---|
| | | з 1 кастр. 1928 г. | з 1 студз. 1929 г. |
| Пасудамыі і рабочыя . . . . . | у Менску . . . . . | 30 | — |
| " " " . . . . . | у Гомелі і Віцебску . . | 27 | — |
| " " " . . . . . | у іншых акруг. гарадох . | 25 | — |
| " " " . . . . . | у іншых мясцовасьцях . | 22 | — |
| Нянька і мамка . . . . . . . | у Менску . . . . . | 30 | — |
| " " " . . . . . . . | у Гомелі і Віцебску . . | 27 | — |
| " " " . . . . . . . | у іншых акруг. гарадох . | 25 | — |
| " " " . . . . . . . | у іншых мясцовасьцях . | 22 | — |
| Кладаўшчык . . . . . . . . | | — | 40 |
| Швачка . . . . . . . . . . | | — | 35 |
| **Розныя** | | | |
| Тэхнік гарадзк. аддз. кам. гаспадар., акр. інспэкц. мясц. прамыслов. . | у акруговых гарадох. . | 100 | — |
| Раённыя тэхнікі . . . . . . . | | 60 | — |
| Рынкавы і жылішчны агэнт. . . . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 40 | — |
| " " " " . . . . . | у іншых акруг. гарадох . | 35 | — |
| Загадчык муніцыпалізав. дамоў . . | у Менску, Гомелі і Віцебску . . . . . | 55 | — |
| " " " . . | у іншых акруг. гарадох . | 50 | — |

*Увага.* По ўсіх пасадах, не прадугледжаных гэтаю пастановаю, застаюцца ранейшыя стаўкі аж да выяўленьня гэтых пасад для пашырэньня дзяржаўнага нармаваньня і на гэтыя пасады.

Нам. Народнага Камісара
Працы *Я. Мяркулаў.*

Сакратар Народнага Камісарыяту
Працы БССР *А. Круглік.*

10 студзеня 1929 г.
№ 1.

## 2. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра ліквідацыю бюро нагляду па працоўных справах пры акруговых інспэкцыях працы.**

*(Выдана на падставе пастановы ЦВК і СНК БССР за 29 сьнежня 1928 г. „Пра скасаваньне арт. 64 пастановы „Пра рэарганізацыю і спрашчэньне савецкага апарату і пра пашырэньне праў мясцовай улады"—З. З. БССР 1928 г., № 6, арт. 36).*

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

I. Пастанову Народнага Камісарыяту Працы БССР за 16 сакавіка 1928 г. № 15 „Пра ўтварэньне пры ўсіх акруговых інспэкцыях працы бюро нагляду па працоўных справах" (Бюл. СНК БССР 1928 г., № 3) скасаваць і існуючыя пры акруговых інспэкцыях працы бюро нагляду па працоўных справах ліквідаваць.

II. Функцыі бюро нагляду ўскласьці на акруговыя інспэкцыі працы ў адпаведнасьці з арт. 36 „Правілаў пра міравы, пасрэдніцкі і судовы разгляд працоўных спрэчак" (З. З. СССР 1928 г., № 56, арт. 495).

Нам. Народнага Камісара
Працы БССР *Д. Захарава.*

Сакратар Народнага Камісарыяту
Працы БССР *А. Круглік.*

18 студзеня 1929 г.,
№ 2.

---

## 3. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

**пра скарачэньне ўжываньня каротка-тэрміновага пазбаўленьня волі (да аднаго году).**

*Усім органам суда, сьледзтва і пракуратуры.*

Пастановаю Прэзыдыуму ЦВК БССР за 3 лістапада 1928 г., вынесенай па дакладах НКЮ і НКУС аб змаганьні з злачыннасьцю і аб становішчы месц зьняволеньня, крымінальная палітыка, якая праводзілася судовымі ўстановамі БССР у кірунку ўзмацненьня мер сацыяльнай абароны за найбольш небясьпечныя злачынствы (контррэвалюцыйныя, службовыя, бандытызм, рабунак) і, разам з тым, у кірунку зьмяншэньня мер рэпрэсіі за злачынствы, менш небясьпечныя, прызнана правільнаю.

Аднак, адначасова з гэтым Прэзыдыум ЦВК зьвярнуў увагу на значнае пашырэньне судамі ўжываньня каротка-тэрміновага пазбаўленьня волі і, дзеля гэтага, палічыў патрэбным зьменшыць на далейшы час ужываньне каротка-тэрміновага зьняволеньня праз пашырэньне ўмоўнага каротка-тэрміновага пазбаўленьня волі і праз больш шырокае ўжываньне іншых мер сацыяльнай абароны—прымусовых работ, штрафаў, грамадзкага ганьбаваньня, вымовы, папярэджаньня і г. д.

У адпаведнасьці з паказаным вышэй і бяручы пад увагу, што ўжываньне каротка-тэрміновага пазбаўленьня волі, наогул, у дачыненьні да працоўных, якія ўчынілі злачынствы ўпяршыню, або пад уплывам цяжкіх умоў і г. д., зьяўляецца немэтазгодным, бо не дасягае тых мэтаў, якія мае на ўвазе арт. 7 Кр. Код. БССР 1928 г., Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе наступнае:

1. Пры вызначэньні мер сацыяльнае абароны ў дачыненьні да працоўных за дробныя злачынствы, калі гэтыя злачынствы ўчынены пры акалічнасьцях, паказаных у арт. 50 Кр. Код., і калі санкцыямі адпаведных артыкулаў прадугледжваюцца, побач з пазбаўленьнем волі, іншыя менш цяжкія меры сацыяльнае абароны, ужываць заўсёды, як правіла, не пазбаўленьне волі, а менш цяжкія меры сацыяльнай абароны— прымусовыя работы і г. д. або ўмоўнае каротка-тэрміновае пазбаўленьне волі.

2. У тых самых выпадках, а таксама і тады, калі санкцыяю адпаведнага артыкулу Кр. Код. прадугледжваецца толькі каротка-тэрміновае пазбаўленьне волі, шырока карыстацца артыкулам 51 Кр. Код., ужываючы, пры паказаных у папярэднім пункце ўмовах, у дачыненьні да працоўных не пазбаўленьне волі, а іншыя, менш цяжкія, меры сацыяльнай абароны.

3. Разглядаючы паказанага роду справы ў касацыйным парадку, выпраўляць, на падставе п. „б" арт. 420 КПК, прысуды ў адпаведнасьці з дадзенымі вышэй дырэктывамі.

4. Ня ўжываць у стадыі папярэдняга сьледзтва, у дачыненьні да паказанай вышэй катэгорыі злачынцаў, трыманьне пад вартай, як спыняльнай меры.

5. Адступленьне ад паказаных вышэй дырэктыў дазваляць толькі ў паасобных выключных выпадках.

Народны Камісар Юстыцыі БССР
і Пракурор Рэспублікі *А. Сташэўскі.*

8 студзеня 1929 г.,
№ 3.

---

## 4. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### пра ўзмацненьне змаганьня з „шынкарствам".

*Усім органам суда, сьледзтва і пракуратуры.*

У зьвязку з мерапрыемствамі Ўраду, накіраванымі на змаганьне з самагонам і на скарачэньне спажываньня хлебнага віна (гарэлкі) ў гарадзкіх і прамысловых цэнтрах, узьнікае небясьпека разьвіцьця так званага „шынкарства", як збыту, які мае характар промыслу, альбо захаваньня для такога збыту без належнага дазволу законна выробленага хлебнага віна, пры гэтым прадугледжваецца магчымасьць разьвіцьця асабліва небясьпечнага ў сучасных умовах віду незаконнага захаваньня хлебнага віна, што можа вельмі дрэнна адбіцца на справе змаганьня з спажываньнем алкаголю, а уласна—перавозу ці пераносу законна выробленага хлебнага віна з вёскі ў гарадзкія і прамысловыя цэнтры для збыту яго сярод насельніцтва беспасрэдна, а таксама і права „шынкароў", г. зн. праз прыватных асоб, якія займаюцца гэтым збытам, як промыслам, без належнага дазволу.

Адзначаная небясьпека патрабуе зараз-жа ўжыць усе належныя захады для ўзмацненьня змаганьня з „шынкарствам".

Паказаныя вышэй віды „шынкарства" прадугледжаны арт. 147 КК БССР 1928 г.

Трэба, аднак, мець на ўвазе, што збыт законна выробленых напіткаў і захаваньне іх для збыту прасьледуюцца, паводле арт. 147 КК, толькі тады, калі збыт мае характар промыслу і калі паказаныя дзеяньні ўчыняюцца без належнага дазволу. Калі збыт або захаваньне

законна выраблёных напіткаў, паказаных у арт. 147 КК, ня мае характару промыслу, або ўчыняюцца з належнага дазволу, дык яны не зьяўляюцца злачынствам і ня могуць прасьледвацца ні ў судовым, ні ў адміністрацыйным парадку.

У адпаведнасьці з паказаным вышэй, Народны Камісарыят Юстыцыі БССР прапануе:

1. Узмоцніць нагляд па лініі пракуратуры за падняцьцем паказаных спраў і за тэрміновым праходжаньнем іх у органах суда, сьледзтва і дазнаньня.

2. Кваліфікуючы злачынства паводле арт. 147 КК, трэба мець на ўвазе памянёныя вышэй паказаньні аб прыметах, якія зьяўляюцца істотнымі для данага роду злачынстваў.

3. Усе справы аб злачынствах, прадугледжаных арт. 147 КК, калі абвінавачаныя злоўлены на месцы злачынства і калі пры гэтым для справы не патрэбна асобнае расьсьледваньне, або калі абвінавачаныя прызналі сябе вінаватымі, разглядаць паводле арт. арт. 360—365 КПК.

4. Усе паказанага роду справы ў іншых выпадках разглядаць у судовых органах у першую чаргу, паводле п. I абежніку НКЮ БССР за 18-XII—1925 г., № 94.

5. У дачыненьні да рэцыдывістых паводле арт. 147 КК ужываць, на падставе арт. 48 і п. „в“ арт. 49 КК, найбольш строгую меру сацыяльнай абароны, прадугледжаную арт. 147 КК, і выбіраць у дачыненьні да іх, як да асоб, знаходжаньне якіх на волі зьяўляецца грамадзка—небясьпечным, за спыняльную меру да суда і пасьля вынясеньня прысуду трыманьне пад вартай.

6. Робячы даклады на сходах працоўных, трэба высьвятляць перад імі значэньне змаганьня з „шынкарствам“ і яго сацыяльную небясьпечнасьць.

Народны Камісар Юстыцыі БССР
і Пракурор Рэспублікі *А. Сташэўскі.*

8 студзеня 1929 г.
№ 4.

---

## 5. Правілы Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР

**пра складаньне і пасылку сельскімі саветамі і дамакіраўніцтвамі ў фінансавыя аддзелы акруговых выканаўчых камітэтаў сьпісаў спадчыннай ці адмерлай маемасьці.**

На падставе пастаноў СНК БССР за 1 ліпеня 1926 г. і 26 лістапада 1926 г. „Аб паданьн зьвестак аб адчыніўшыхся спадчынах“ (З. З. БССР 1926 г., № 26, арт. 96 і № 49, арт. 185), а таксама арт. 20 пастановы СНК БССР за 15 чэрвеня 1927 г. „Аб адміністрацыйных абавязках дамакіраўніцтваў“ (З. З. БССР 1927 г., № 31, арт. 155), Народны Камісарыят Фінансаў БССР устанаўляе наступныя правілы:

1. Дамакіраўніцтвы, жылішчныя таварыствы і іншыя падобныя арганізацыі, а таксама сельскія саветы не пазьней як праз тры дні пасьля сьмерці асобы, якая жыла ў даным доме ці паселішчы, калі пасьля памерлага астаецца спадчына на суму больш 1.000 руб. ці на меншую, але адмерлая (няма нікога з сваякоў: дзяцей, унукаў, праўнукаў ці перажыўшых мужа ці жонкі, альбо асобы, якая была на поўным утрыманьні нябошчыка ня менш аднаго года да яго сьмерці),

робяць сьпіс пакінутай маемасьці без ацэнкі і пасылаюць сьпіс на працягу двух тydняў ад дня сьмерці ў акруговы фінансавы аддзел.

*Увага.* Сьпіс дадаецца да заявы сельскага савету, ці дамакіраўніцтва аб сьмерці, якая падаецца ў фінансавы аддзел таксама на працягу двух тыдняў паводле памянёнай вышэй пастановы СНК БССР за 1-га ліпеня 1926 г. (З. З. БССР 1926 г., № 26, арт. 96).

2. Сьпіс спадчыны складаецца ў прысутнасьці спадчынаемцаў калі яны знаходзяцца на месцы, а калі яны адсутнічаюць—пры двух сьведках.

3. Да складаньня сьпісу спадчынаемцы папярэджваюцца аб крымінальнай адказнасьці за ўтойваньне маемасьці.

4. Сьпіс складаецца, галоўным чынам, з паказаньняў спадчынаемцаў без ператрускі, паламаньня захавальняў і г. д., але разам з гэтым у сьпіс запісваецца і тая маемасьць, аб якой ведаюць асобы, што складаюць сьпіс, але якая не паказваецца спадчынаемцамі.

5. У сьпісе падрабязна паказваюцца прадметы, выяўленыя ў наяўнасьці:

а) будынкі і паказваюцца якія,

б) звычайныя хатнія рэчы (калі няма спадчынаемцаў, якія жылі з памерлым).

*Увага.* Калі спадчынаемцы жылі разам з спадчынадаўцам, дык звычайныя хатнія рэчы не запісваюцца.

в) прадметы роскашы,

г) выязныя коні, экіпажы і запрэжка,

д) гандлёва-прамысловыя прадпрыемствы, паказваючы тавары, вагі, гіры і г. д., а таксама машыны і начыньне і сырэц, куплены для апрацоўкі,

е) грошы,

ж) правы па дагаварах і абавязнасьцях,

з) маемасьць, якая ня была паказана ў часе складаньня сьпісу, але аб існаваньні якой ведалі, калі складаўся сьпіс.

*Увага.* У сельскіх мясцовасьцях, калі ўміраюць працоўныя сяляне, у сьпіс ня ўключаецца ўся тая маемасьць, якая знаходзіцца ў карыстаньні таго працаўніка двара (гаспадаркі), членам якога быў памерлы, а таксама будынкі, сельска-гаспадарчы інвэнтар, быдла, машыны і прадукты, якія належаць усім членам гэтае гаспадаркі ў яе поўным складзе.

6. Сьпіс падпісваецца асобаю, якая складала яго, сьведкамі і спадчынаемцамі і паказваецца, што спадчынаемцам сказана аб адказнасьці за няправільныя зьвесткі і ўтойваньне спадчыны.

7. Сьпіс складаецца ў 2-х экз., з якіх адзін пасылаецца ў фінансавы аддзел акруговага выканаўчага камітэту, а другі астаецца ў дамакіраўніцтве ці сельскім савеце.

*Увага.* Спадчынаемцам памерлага могуць быць выдадзены па іх просьбе копіі сьпісаў.

8. Калі, па загаду народнага суда, судовы выканавец зьявіцца для складаньня сьпісу маемасьці раней дамакіраўніцтва ці сельскага савету, дык апошнія самі сьпісу не складаюць, а толькі паведамляюць акруговы фінансавы аддзел аб складзеным сьпісе ў парадку судовай аховы спадчыны, паказаўшы час складзенага сьпісу судовым выканаўцам.

Нам. Народнага Камісара
Фінансаў БССР *Л. Бунін.*

10 студзеня 1929 г.





## 6. Абежнік Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

**пра праверку выкананьня дырэктыў НКА па большаму ахопу чатырохгадовымі школамі і сямігодкамі дзяцей вясковай беднаты і пра мерапрыемствы ў гэтай галіне.**

*Акруговым інспэктаром народнае асьветы.*

Вынікі выбарачнага абсьледваньня некаторых школ Аршанскай, Менскай і Магілеўскай акруг і зьвесткі аб сацыяльным складзе V груп у БССР даюць наступны малюнак:

1) нездавальняючы сацыяльны склад школ, асабліва II канцэнтру сямігодак, ня гледзячы на некаторае палепшаньне яго ў сувязі з прыёмам у 1928/29 годзе;

2) значны адсеў дзяцей батракоў і беднякоў ужо ў пачатку навучальнага году;

3) грубае парушэньне клясавай лініі ў школах пры разьмеркаваньні падручнікаў паміж вучнямі і забясьпечаньні іх інтарнатам, якое выявілася ў здаволеньні гэтым некаторай часткі іншых сацыяльных груп, у той час, калі дзеці батракоў і беднякоў цалкам ня былі забясьпечаны;

4) няма сталага падліку дзяцей школьнага веку па сацыяльным становішчы ахопленых школамі, таксама і па-за школаю;

5) ня пры ўсіх школах утвораны мясцовыя фонды дапамогі дзецям беднаты за кошт ініцыятывы грамадзкіх арганізацый (КСУ, капярацыя і інш.) і самаго насельніцтва, ня ўсюды скарыстаны яшчэ бюджэтныя сродкі мінулага году на гэтую патрэбу і ёсьць выпадкі скарачэньня яго, альбо выдаткаваньня значнай сумы не на беспасрэднае прызначэньне (Аршанскаю акругаю з 5.900 руб—4.000 р., Менскаю з 10.820 р.—7.423 р. і Магілеўскаю з 9.000 руб.—4.000 руб.;

6) у пачатку навучальнага году акруговымі інспэктарыятамі народнае асьветы, РВК і сельскімі саветамі не праведзена шырокая кампанія для большага ўцягненьня ў школы дзяцей батракоў і беднякоў і не вядзецца сыстэматычная работа для замацаваньня іх у школах на працягу ўсяго навучальнага году і курсу навучаньня;

7) у час камплектаваньня сямігадовых школ акруговымі інспэктарыятамі народнае асьветы ня была праведзена жывая праверка-работа прыймовых камісій пры сямігодках і слаба праводзіцца праверка выкананьня РВК і сельскімі саветамі дырэктыў НКА па большаму ахопу і замацаваньню ў школах дзяцей вясковай беднаты.

Усё гэта гаворыць за тое, што інспэктура народнае асьветы, РВК і сельскія саветы не зьвярнулі дастатковай увагі на дырэктывы НКА па гэтым пытаньні.

Грунтуючыся на вызнаным, Народны Камісарыят Асьветы БССР прапануе наступнае:

1. Неадкладна падагуліць у акрузе вынікі камплектаваньня чатырохгадовых школ і сямігодак у 1928/29 г. і праведзеных і мерапрыемстваў для ахопу і замацаваньня ў школах дзяцей батракоў і беднякоў.

2. Ужыць захады для арганізацыі пры кожнай школе мясцовых фондаў дапамогі дзецям батракоў і беднякоў за кошт ініцыятывы грамадзкіх арганізацый на вёсцы і самаго насельніцтва.

3. Ужыць адпаведныя захады для своечасовага скарыстаньня бюджэтнага фонду дапамогі дзецям беднаты, не дапушчаючы яго скарачэньня альбо выдаткаваньня на іншыя патрэбы, даўшы практычныя паказаньні, як і на што яго скарыстаць.

4. Дабіцца, там дзе трэба, арганізацыі пры школах начлежак для дзяцей батракоў і беднякоў, іх дастаўкі ў школы і арганізацыі гарачых сьнеданьняў.

5. Праверыць сацыяльны падлік дзяцей школьнага веку і клясавую лінію ў забясьпечваньні вучняў падручнікамі, пісьмовымі прыладамі і інтарнатам, які вядзецца ў школах і сельскіх саветах.

6. Арганізаваць дапамогу школы вучням, якія не пасьпяваюць за рэштаю, у першую чаргу дзецям батракоў і беднякоў і тым самым зьменшыць другагодніцтва сярод іх.

7. Дагаварыцца з АВК аб пастаноўцы на прэзыдыуме і бліжэйшым яго пленуме пытаньня аб ахопе школамі і замацаваньні імі вясковай беднаты і аб праведзеных практычных мерапрыемствах у гэтым кірунку, дабіўшыся для гэтага ад РВК і сельскіх саветаў сыстэматычнай работы, наладзіўшы сталы кантроль за выкананьнем дырэктыў.

8. Вынікі камплектаваньня школ і праведзеных мерапрыемствах падаць НКА не пазьней 15 лютага бягучага году.

Нам. Народнага Камісара Асьветы БССР *С. Слонім.*

Інспэктар школ сац. выхаваньня *М. Жыгмунт.*

9 студзеня 1929 г.
№ 12.

---

## 7. Абежнік Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

### пра папулярызацыю ашчаднай справы.

*Усім акруговым інспэктарам народнае асьветы.*

Тэмп індустрыалізацыі краіны і ўздыму сялянскай гаспадаркі ў значнай меры залежыць ад тых сродкаў, якія ў самой краіне могуць быць мабілізаваны, бо на дапамогу ад замежных дзяржаў, па зразумелых прычынах, разьлічваць нельга.

Дзяржаўныя ашчадныя касы, на якія ўскладзена задача ўцягненьня ўсіх вольных сродкаў насельніцтва на патрэбы разьвіцьця народнай гаспадаркі ў нашых сучасных умовах набываюць асабліва важнае значэньне.

Праца ашчадных кас да гэтага часу папуляразавана, галоўным чынам, сярод гарадзкога насельніцтва і ў першую чаргу сярод рабочых і служачых.

Між тым у БССР пераважную часьць насельніцтва складае сялянства, якое да гэтуль вельмі слаба ўцягнута ў ашчадныя касы; на 1/X 1928 г. у БССР ахоплена ашчаднымі касамі ўсяго 2,4 проц. сялянскіх гаспадарак, а сума сялянскіх укладаў складае толькі 6,4 проц. агульнай сумы ўкладаў у ашчадных касах БССР.

Такі нязначны ахоп сялянства тлумачыцца выключна слабаю папулярызацыяю ашчаднай справы на вёсцы і несьвядомасьцю большасьці сялян аб выгадах карыстаньня ашчаднымі касамі (поўная таемнасьць укладаў, выплата працантаў па ўкладах, аказаньне ашчаднымі касамі ўкладчыкам розных паслуг і г. д.).

Зразумела, што ашчадны апарат ня мае магчымасьці сам праводзіць шырокую папулярызацыю ашчаднай справы, а яму павінна рабіцца сталая дапамога ўсіх савецкіх органаў і савецкай грамадзкасьці і ў першую чаргу працаўнікамі асьветы.

Грунтуючыся на гэтым і на тых надзвычайна важных задачах, якія Урадам БССР пастаўлены перад ашчаднымі касамі, Народны Камісарыят Асьветы БССР прапануе:

1. Сыстэматычна праводзіць папулярызацыю ашчаднай справы праз школы, хаты-чытальні, народныя дамы, бібліатэкі, чырвоныя куткі, для чаго ўключыць у плян працы паказаных устаноў папулярызацыю ашчаднай справы.

2. Увесьці ў праграму культасьветнай працы школ папулярызацыю ашчаднай справы, даўшы гэтай справе адпаведную ідэалёгічную ўстаноўку, з пункту погляду аздараўленьня сямейнага быту і рацыяналізацыі бюджэту сям'і (змаганьне з п'янствам і інш. зьявішчамі). Праз гэтую працу можна будзе зрабіць уплыў на бацькоў і разам з гэтым яна будзе мець выхаваўчае значэньне для школьнай моладзі.

3. Дапамагаць у арганізацыі ашчадных кас у школах і папулярызацыі марачных ашчад, галоўным чынам, сярод дзяцей школьнага веку.

4. Арганізаваць самадзейнасьць вучняў у галіне мэтавых калектыўных накапленьняў для набыцьця падручнікаў, прадметаў фізкультуры і інш.

5. Апрацоўваючы тэмы па грамадазнаўству, пэдтэхнікумы, савецкія партыйныя школы і школы II ступені павінны ўвесьці абавязковае асьвятленьне ашчаднай справы ў эканоміцы нороднай гаспадаркі, гісторыі ашчаднай справы і асноўных момантаў, якія адрозьніваюць гэтую справу ў нас і ў капіталістычных дзяржавах.

6. Арганізаваць „куткі ашчаднасьці" ва ўсіх культасьветных установах і школах, забясьпечыўшы адпаведную кансультацыю па пытаньнях ашчаднай справы.

7. Ужыць захады разам з саюзнымі арганізацыямі да ўцягненьня настаўніцтва ў працу для папулярызацыі ашчаднай справы сярод сялянскага насельніцтва, асабліва ў форме індывідуальных гутарак аб ашчадных касах і іх карысьці для сялянства. Пры гэтым імкнуцца да практычнага замацаваньня гэтых гутарак у кірунку вярбоўкі ўкладчыкаў.

Каб палегчыць практычнае ажыцьцяўленьне гэтага мерапрыемства, настаўніцтва павінна ўстанавіць сталую сувязь з мясцовымі ашчаднымі касамі.

8. Скарыстаць, як мага шырэй, для папулярызацыі ашчаднай справы сетку кіно-установак, якая знаходзіцца ў распараджэньні органаў народнай асьветы, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на скарыстаньне кіно-перасовак на вёсцы.

9. Увесьці ў праграму выкананьня мастацкіх калектываў сцэнічную прапаганду ашчаднай справы.

10. Весьці праз вучняў працу сярод бацькоў для вярбоўкі ўкладчыкаў ашчадных кас, уцягваючы ў гэтую працу грамадзкія школьныя арганізацыі.

На аснове гэтых дырэктыў Вам трэба скасьці канкрэтную праграму працы і, устанавіўшы з акруговаю ашчаднаю касаю сталую сувязь, ужыць захады да яе ажыцьцяўленьня.

Надаючы вялікае значэньне разьвіцьцю ашчаднай справы, Народны Камісарыят Асьветы просіць Вас ужыць усе захады да ажыцьцяўленьня гэтых дырэктыў і актыўна дапамагаць укараненьню ідэй ашчаднасьці ў шырокія колы насельніцтва.

У вашых справаздачах прапануецца паказваць, што Вамі зроблена ў гэтай галіне і якія ёсьць вынікі.

Народны Камісар Асьветы БССР *А. Баліцкі.*

Сакратар Народнага Камісарыяту Асьветы БССР *Ю. Савіч.*

12 студзеня 1929 г.
№ 14.

## 8. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

**пра дазвол папярэдняга выкананьня пастаноў зямельных камісій па справах абрэзкі вялікіх гаспадарак.**

*Зямельным камісіям БССР.*

На падставе ўвагі да арт. 204 Зям. Код. па справах аб абрэзцы вялікіх гаспадарак пастановы раённых зямельных камісій павінны папярэдне выконвацца. Увага гэтая была растлумачана пунктам 19 абежніку Народнага Камісарыяту Земляробства БССР за 22-VII-1926 г. № 18 (Бюл. СНК БССР 1926 г. № 10, стар. 45) у тым сэнсе, што папярэдняе выкананьне пастаноў раённых зямельных камісій па справах аб абрэзцы вялікіх гаспадарак павінна дазваляцца толькі тады, калі няма спрэчак і скарг.

Зямельныя камісіі кіруюцца названым тлумачэньнем да гэтага часу. Між тым яно страціла сваю сілу пасьля выданьня арт. 171[2] Зям. Код. пастановаю ЦВК і СНК за 7-V-28 г Паводле гэтага артыкулу раённая зямельная камісія можа дазваляць папярэдняе выкананьне свае пастановы аб зацьверджаньні земляўпарадчага праекту ня толькі на бясспрэчных справах, але і тады, калі сторанамі заяўлены нязначныя спрэчкі. Да іх належаць нягрунтоўныя скаргі на правільнае адабраньне паводле земляўпарадчага праекту ад вялікай гаспадаркі лішкаў зямлі больш нормы.

Народны Камісарыят Земляробства прапануе зямельным камісіям, якія зьяўляюцца першаю інстанцыяю, карыстацца правам на дазвол папярэдняга выкананьня іх пастаноў па справах абрэзкі вялікіх гаспадарак.

Народны Камісар Земляробства
БССР *З. Прышчэпаў.*

Старшыня Асобнай Калегіі Вышэйшага
Кантролю *Я. Лабаноўскі.*

---

## 9. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Земляробства БССР і Кіраўніцтва Беларускае Акругі Сувязі

**пра парадак аплаты, перасылкі і ўручэньня судовых павестак і лістоў зямельных органаў з расьпіскамі аб атрыманьні.**

На падставе дагавору Народнага Камісарыяту Земляробства БССР і Кіраўніцтва Беларускае Акругі Сувязі, устанаўляецца з 1 студзеня 1929 г. наступны парадак аплаты, перасылкі і ўручэньня судовых павестак і судовых лістоў зямельных органаў з расьпіскамі аб атрыманьні:

1. Кіраўніцтва Беларускае Акругі Сувязі прымае для перасылкі і дастаўкі ў межах БССР ад Асобнае Калегіі Вышэйшага Кантролю, акруговых і раённых зямельных камісій, судоў пры сельскіх саветах, земляўпарадчыкаў, мэліаратараў, гідратэхнікаў, торпмэйстраў і лесаўпарадчыкаў паводле асобнага тарыфу: а) судовыя павесткі з паведамленьнем аб атрыманьні ў выглядзе падвойнай паштовай карткі устаноўленай формы разьмерам 105×148 м/м кожная і б) закрытыя лісты вагаю ня больш 50 грам. з паведамленьнем аб атрыманьні, калі павесткамі выклікаюцца стораны, сьведкі, знаўцы і панятыя пры паказаньні пра-

ектаў альбо разглядзе зямельным судом спраў, а ў судовых лістох перасылаюцца копіі праектаў і пастаноў, выпіскі з іх, копіі скарг, выканаўчыя лісты і наогул паперы, якія належаць да спрэчна-зямельных, водных, земляўпарадчых, мэліарацыйных, торпавых і лесаўпарадчых спраў, але ня самыя справы.

2. За перасылку і дастаўку паказаных у пункце 1 гэтага дагавору адпраўленьняў устанаўляецца пры простым спосабе перасылкі такая плата:

а) за судовую павестку з паведамленьнем аб атрыманьні, якая перасылаецца ў межах аднаго гораду ці раёну,—6 кап.;

б) за павестку з паведамленьнем, калі адно адпраўленьне перасылаецца ў межах аднаго гораду ці раёну, а другое за іх межы,—8 кап.;

в) за судовую павестку з паведамленьнем аб яе атрыманьні, калі павестка і паведамленьне перасылаюцца за межы аднаго гораду ці раёну,—10 кап.;

г) за кожны закрыты ліст вагаю больш 50 грам з паведамленьнем аб яго атрыманьні, калі ліст і паведамленьне перасылаюцца ў межах аднаго гораду ці раёну,—8 кап.;

д) за ліст з паведамленьнем, калі адно з гэтых адпраўленьняў перасылаецца ў межах гораду ці раёну, а другое за межы,—10 кап.;

е) за такі самы ліст, калі ён і паведамленьне перасылаюцца за межы аднаго гораду ці раёну,—12 кап.

3. На перасылку павестак і лістоў заказным спосабам дабаўляецца збор за кожнае адпраўленьне па 5 кап. у межах аднаго гораду ці раёну і па 10 кап. за межамі, г. зн. калі, напрыклад, павестка перасылаецца простым спосабам у межах данага раёну з тым, каб паведамленьне было заказным спосабам адпраўлена ў акругавы цэнтр за межы раёну, такое адпраўленьне аплачваеццца 18 кап.

4. Уся сума паштовых збораў аплачваецца праз наклейку паштовых марак на першым экзэмпляры адпраўленьня, г. зн. на судовай павестцы ці лісьце. Паведамленьне-ж аб атрыманьні павесткі альбо лістку перасылаецца без наклейкі на ёй марак.

5. Простыя (незаказныя) судовыя павесткі і лісты здаюцца на пошту без яе расьпіскі аб атрыманьні, альбо кідаюцца ў паштовыя скрынкі. Такім самым парадкам, г. зн. простым, перасылаюцца зямельным органам і расьпіскі старон аб атрыманьні судовых павестак і лістоў, калі яны не аплачаны за заказ.

6. Судовыя павесткі і лісты павінны мець поўны адрэс асобы, якім яны ўручаюцца, а паведамленьні адрэс установы, у якую гэтыя паведамленьні перасылаюцца. Адрэсуючы адпраўленьні ў горад, апроч яго назвы, трэба паказваць вуліцу, нумар дому і кватэры, імя, імя па бацьку і прозьвішча асобы, ці поўную назву ўстановы. Адрэсуючы адпраўленьне ў вёску, трэба паказваць назву паштовага пункту, сельскага савету, паселішча і поўную назву адрэсату.

Судовыя лісты на пярэдняй старонцы павінны мець надпіс: „Судовае. З расьпіскаю аб атрыманьні". Паштовыя маркі наклейваюцца на судовых павестках і лістох абавязкова ў правым верхнім куце адпраўленьня.

7. Судовыя павесткі і лісты выдаюцца поштаю адрэсатам пад іх расьпіску, а калі адрэсат няпісьменны, пад росьпіску пісьменнага суседа. Калі адрэсат адмовіцца атрымаць ліст ці павесткі, дык ён павінен напісаць аб гэтым на адпраўленьні, а калі ён адмовіцца і ад гэтага, дык факт адмаўленьня адрэсата сьведчыцца сельскім саветам, сельскім выканаўцам, ці іншаю службоваю асобаю, альбо дамакіраўніцтвам.

8. Калі адрэсат адсутнічае, дык для перадачы яму павестка ці ліст выдаюцца пад расьпіску каму-небудзь з паўналетніх членаў яго двара, бліжэйшаму суседу, службовай асобе ўстановы, у якой працуе адрэсат, адміністрацыі дамакіраўніцтва, альбо дворніку.

Калі судовыя павесткі і лісты выдаюцца не беспасрэдна адрэсату, дык ў расьпісцы абавязкова паказваюцца адносіны (жонка, сусед і г. д.) да адрэсату асобы, што атрымала адпраўленьне.

9. Судовыя павесткі і лісты, адрэсаваныя ў паселішчы, якія поштаю беспасрэдна не абслугоўваюцца, выдаюцца паселішчным упаўнаважаным. Апошнія зьяўляюцца за поштаю ў вызначаны пункт і ўручаюць павесткі і лісты пад расьпіску адрэсату альбо асоб, паказаных у пункце 7 гатага дагавору. Паведамленьні аб атрыманьні судовых павестак і лістоў здаюцца ўпаўнаважанымі паселішчаў на пошту. Паштовы працаўнік правярае наяўнасьць устаноўленых зьвестак і подпісу адрэсата.

10. Калі павестку ці ліст немагчыма ўручыць, бо адрэсат памёр альбо выехаў невядома куды, дык паштовы працаўнік аб гэты адзначае на павестцы ці лісьце і перасылае іх па адрэсу, паказанаму на паведамленьні. Калі-ж адрэсат выехаў і адрэс яго вядомы, дык аб гэтым адзначаецца на павестцы ці лісьце і яны перасылаюцца ў новае месцазнаходжаньне адрэсата.

11. Подпісы адрэсата альбо асобы, што атрымала для яго судовае адпраўленьне, час атрыманьня, адносіны атрымальніка да адрэсата, зьвесткі аб прычынах няўручэньня павесткі і ліста і, наогул, усякія адзнакі на судовым адпраўленьні сьведчацца подпісам паштовага працаўніка, які ўручае адпраўленьне, і прыкладаецца паштовы каляндарны штэмпель. Пасьля гэтага афармленьня расьпіска аб атрыманьні павесткі ці ліста перасылаецца ўстанове па адрэсу, паказанаму на паведамленьні.

12. Зямельныя органы павінны свае судовыя павесткі і лісты перасылаць праз пошту. Калі паштовыя ўстановы знаходзяцца далей, чым тыя асобы, што выклікацца, а таксама ў тэрміновых і выключных выпадках дазваляецца перасылаюць названыя адпраўленьні праз міліцыю, сельскія саветы, службовых асоб данага органу і ўпаўнаважаных зямельнае грамады і выдаваць павесткі і лісты на рукі цяжбенікам для ўручэньня адрэсатам. Да забясьпечаньня зямельных органаў павесткамі і паведамленьнямі карткавай формы ўжываецца ранейшы парадак перасылкі судовых адпраўленьняў.

Невыкананьне зямельнымі органамі гэтага абавязку выклікае спыненьне ільготнай перасылкі павестак і судовых лістоў таго органу ці службовай асобы, якія парушылі гэта.

13. Усе загадчыкі паштовых кантор, аддзяленьняў і агэнстваў павінны дакладна інструктаваць лістаносцаў аб парадку дастаўкі судовых павестак і лістоў, якія пасылаюцца зямельнымі органамі, і аб парадку запаўненьня расьпісак аб атрыманьні гэтых адпраўленьняў.

*Дадатак.* Формы павестак і паведамленьняў аб атрыманьні іх і судовых лістоў.

Нам. Народнага Камісара Земляробства
БССР *К. Масюкоў.*

За Загадчыка Кіраўніцтва Беларускае
Акругі Сувязі *А. Унук.*

11 студзеня 1929 г.

## ДАДАТКІ.

Форма № 1.

Месца для пашт марак

### СУДОВАЯ ПАВЕСТКА

з паведамленьнем аб атрыманьні

Куды ..................................................
(назва месца, дзе знаходзіцца пошта, і акругі)

..................................................
(раён, сельскі савет, вёска, вуліца, № дому і кватэры)

Каму ..................................................

..................................................
(падрабязная назва атрымальніка)

Форма № 2.

Гэрб БССР

### Павестка па справе № ..........
(адваротны бок)

.......................................... Зямельная Камісія

выклікае Вас у горад/сяло .......................... на „..........“ ..........

192.......г. а.......гадзіне па справе ..........................

.........................................., як ісца, адказчыка, сьведку, знаўца.
(непатрэбнае выкрэсьліць)

ВЫНІКІ НЯЯЎКІ

Калі ня зьявіцца ісьцец ці адказчык, дык справа разглядаецца бяз іх; а калі ня зьявіцца сьведка ці знаўца, дык на іх накладаецца штраф ня больш 10 руб.

Сакратар

Форма № 3

Аплочана наклейкаю марак на павестцы

### Паведамленьне аб атрыманьні судовае павесткі

(Калі ўручаецца павестка, дык паведамленьне адрываецца ад апошняй і заразжа перадаецца на пошту для адпраўкі па паказанаму тут адрэсу).

Куды ..................................................

Каму .................................................. Зямельнай Камісіі

Форма № 4.

## Расьпіска аб атрыманьні павесткі па справе №........................

(адваротны бок паведамленьня).

Павестку на імя ................................................................................................

аб яўцы яго на „..............“ ................................................................192..............г.

у ......................................................................Зямельную Камісію атрымаў „..............“

......................................................192..............г.

1. Асабіста ................................................................................(подпіс адрэсата)

2. Для перадачы ................................................................................................

................................................................................................................................

(адносіны атрымальніка да адрэсата і подпіс атрымальніка)

Подпіс лістаносца ......................................................................  Штэмпель

3. Калі павестка ня ўручана, дык паказаць прычыны ..........................................

................................................................................................................................

Подпіс лістаносца ......................................................................

---

Форма № 5.

Аплочана наклейкаю марак на лісьце.

## Паведамленьне аб атрыманьні судовага ліста.

(Калі ўручаецца ліст, дык паведамленьне адрываецца ад апошняга і неадкладна перасылаецца па паказанаму тут адрэсу).

Куды ................................................................................................................

Каму ......................................................................................Зямельнай Камісіі.

Форма № 6.

**Расьпіска аб атрыманьні судовага ліста па справе №**........................

(адваротны бок паведамленьня).

Ліст на імя ..................................................................................

з выпіскаю праекту, копіяю пастановы, выканаўчым лістом ці..................

..................................................................................

(лішняе выкрэсьліць)

атрымаў „..........“ .................................... 192.......... г.

1. Асабіста ..................................................................................

2. Для перадачы ..................................................................................

..................................................................................

(адносіны атрымальніка да адрэсата і подпіс атрымальніка).

Подпіс лістаносца..................................................................................

3. Калі ліст ня ўручан, дык паказаць прычыны.................................... Штэмпель

..................................................................................

Подпіс лістаносца..................................................................................

Форма № 7.

**Расьпіска аб атрыманьні судовага ліста па справе №**........................

(адваротны бок паведамленьня).

Ліст на імя..................................................................................

з копіяю скаргі на пастанову раённай зямельнай камісіі і павесткаю па справе, якая будзе разглядацца ....................................акруговаю зямельнаю камісіяю „..........“ .................................... 192.......... г., атрымаў.

1. Асабіста ..................................................................................

(подпіс адрэсата)

2. Для перадачы ..................................................................................

..................................................................................

(адносіны атрымальніка да адрэсата і подпіс атрымальніка).

Подпіс лістаносца..................................................................................

3. Калі ліст ня ўручан, дык паказаць прычыны .................................... Штэмпель

..................................................................................

Подпіс лістаносца..................................................................................

## 10. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства БССР пра перасылку павестак і судовых лістоў праз пошту.

*Зямельным камісіям БССР.*

На падставе дагавору з Кіраўніцтвам Беларускае Акругі Сувязі Народны Камісарыят Земляробства прапануе зямельным камісіям уручаць адрэсатам праз пошту судовыя павесткі і лісты. Пасылка названых адпраўленьняў у ранейшым парадку дазваляецца ў тэрміновых і выключных выпадках пасьля таго, як зямельныя камісіі будуць забясьпечаны павесткамі і паведамленьнямі новай формы.

Форма судовых павестак і паведамленьняў аб іх і лістоў, атрыманьне і парадак перасылкі гэтых адпраўленьняў паказаны ў інструкцыі Народнага Камісарыяту Земляробства БССР і Кіраўніцтва Беларускае Акругі Сувязі за 11 студзеня 1929 г.

На аплату судовых выдаткаў за перасылку павестак, лістоў і паведамленьняў бярэцца з стараны ў часе падачы ёю судовай заявы ці скаргі на пастанову патрэбная сума грошай.

Калі паштовае адпраўленьне пасылаецца раённаю зямельнаю камісіяю, дык грошы на паштовыя выдаткі разам з судоваю мытаю ўносяцца стараною ў касу раённага выканаўчага камітэту. Калі-ж павестка ці ліст адпраўляюцца акруговаю зямельнаю камісіяю, дык грошы на паштовыя выдаткі бяруцца яе сакратаром, запісваюцца па чарзе паступленьня ў ведамасьць і перадаюцца кожны тыдзень у рэгістратуру акруговага зямельнага аддзелу на папаўненьне сум, вызначаных на паштовыя выдаткі. У ведамасьці адзначаюцца месяц, дзень, № справы і сума грошай.

Калі старана, што падала судовую заяву ці скаргу, не павінна плаціць судовых збораў, дык з яе не бяруцца паштовыя выдаткі. Аплата гэтых выдаткаў, а таксама выдаткаў пры адкладзе справы робіцца за кошт канцылярскіх сродкаў установы, пры якой знаходзіцца зямельная камісія.

Акруговая зямельная камісія павінна забясьпечыць усе раённыя камісіі блянкамі павестак і паведамленьняў аб атрыманьні іх і судовых лістоў. Такімі самымі блянкамі могуць карыстацца, калі гэта будзе мэтазгодным, суды пры сельскіх саветах, земляўпарадчыкі, мэліаратары і лесаўпарадчыкі.

Усе павесткі і паведамленьні павінны быць аднолькавай формы і разьмеру 105 × 148 мм, як гэта паказана ў названай вышэй інструкцыі.

Судовая павестка зьяўляецца падвойнаю паштоваю карткаю, палова якой замяняе сабою першы экзэмпляр павесткі і ўручаецца асобе, што выклікаецца у зямельную камісію, а другая палова—паведамленьне аб атрыманьні з расьпіскаю адрэсату варочваецца зямельнай камісіі.

Адваротны бок паведамленьня аб атрыманьні судовага ліста мае дзьве формы. Паведамленьне з расьпіскаю паводле формы № 6 ужываецца, калі ў судовым лісьце перасылаецца копія пастановы, выпіска з праекту, выканаўчы ліст ці іншая папера альбо дакумэнт для ўручэньня старане. Паведамленьне з расьпіскаю паводле формы № 7 ужываецца, калі ў лісьце перасылаецца копія скаргі, якая падана стараною на пастанову зямельнай камісіі. Да скаргі далучаецца павестка, у якой паказваецца дзе, калі і кім будзе разглядацца абскарджаная справа.

Паведамленьне аб атрыманьні судовага ліста прыклейваецца ці прышываецца да яго пры адсылцы і адрываецца ад яго пры ўручэньні ліста адрэсату.

Тэкст павесткі і паведамленьня з абодвых бакоў, апроч расьпіскі атрымальніка, яго адносін да адрэсата і прычын няўручэньня, запаўняецца зямельнаю камісіяю, якая пасылае павестку ці ліст. У паасобку раённая зямельная камісія на пярэднім баку паведамленьня піша свой адрэс, калі зямельная справа знаходзіцца ў яе, і адрэс акруговай зямельнай камісіі, калі ёй перасылаецца справа, разгляджаная раённаю зямельнаю камісіяю.

Пакуль ня будуць зямельныя камісіі забясьпечаны блянкамі судовых павестак і паведамленьняў аб атрыманьні іх і лістоў карткавай формы, ужываецца ранейшы парадак перасылкі і ўручэньня судовазямельных адпраўленьняў.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР *К. Масюкоў.*

Старшыня Асобнае Калегіі Вышэйшага
Кантролю *Я. Лабаноўскі.*

12 студзеня 1929 г.
№ 5.

---

## 11. Абежнік Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

### пра парадак прысваеньня двух ці некалькіх імён нованароджанаму пры рэгістрацыі актаў нараджэньня.

*Усім органам запісаў актаў грамадзянскага стану.*

З прычыны запытаньняў з месц аб магчымасьці прысваеньня нованароджанаму некалькіх імён паведамляецца, што на запытаньне НК Унутраных Спраў аб тым, ці можна пры рэгістрацыі актаў нараджэньня называць нованароджаных злучанымі імёнамі, Савет Народных Камісараў БССР вынес наступную пастанову:

„Паказаць Народнаму Камісарыяту Унутраных Спраў, што закон не забараняе даваць нованароджанаму імя, якое зьяўляецца злучаным з двух альбо некалькіх іменьняў“.

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

11 студзеня 1929 г.
№ 6.

---